Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 700.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-20-83

# НАВІНЫ



Пятніца, 24 ліпеня 1998 г. № 77 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Памірае чалавек

### *Адвакат пайшоў на адчайны крок, каб дамагчыся справядлівасці*

**Адвакат Аляксей Філіпчанка, які два тыдні таму ўчыніў самаспаленне перад будынкам Наваполацкага гарадскога суда, цяпер знаходзіцца пры смерці ў Віцебскім абласным апёкавым цэнтры.**

Як ужо паведамляла наша газета, 49-гадовы адвакат падпаліў сябе ў знак пратэсту супраць самавольства мясцовых уладаў, якія ўсімі магчымымі спосабамі імкнуцца выселіць з законнага жылля ягоную падабаронную. Персанальная пенсіянерка Антаніна Воранава жыве ў Наваполацку ў кватэры, атрыманай яшчэ ў савецкія часы. У маладыя гады заслужаны будаўнік БССР Антаніна Воранава была прэміяваная за ўдарную працу льготнай чаргой на кватэру. Аднак другі муж Воранавай, з якім у яе не склалася жыццё, пасля разводу пачаў заяўляць свае правы на гэтую кватэру. Кажуць, ён мае добрыя сувязі і ў пракуратуры, і ў судзе, і сярод «вертыкальшчыкаў». Жанчына спрабавала з дапамогаю адваката Філіпчанкі адстаяць сваё жыллё праз суд, але адразу адчула на сабе ўсю магутнасць мясцовай выканаўчай машыны. Для таго каб выселіць Воранаву з кватэры, выкарыстоўваліся і міліцыя, і пракуратура, і нават пажарныя. Непрыкрытая вайна цягнулася некалькі месяцаў.

У пачатку лета пасля чарговага такога «візіту» Антаніна Воранава зачынілася ў кватэры і прыгразіла, што ўзарве сябе пры дапамозе газавага балона. Яе адвакат сеў каля дзвярэй і падрыхтаваўся абліцца бензінам і падпаліць сябе. Аднак уладам тады ўдалося ўгаварыць змагароў за справядлівасць. Здавалася, канфлікт быў вычарпаны. Але ў хуткім часе «машына» зноў запрацавала. Відаць, «наверсе» было вырашана не ствараць прэцэдэнт, калі чалавек з народа змог адолець бюракратычную машыну. Цяжба працягвалася. Не паўплывала на яе вынік і галадоўка, якую Філіпчанка правёў у знак пратэсту супраць самавольства ўладаў.

8 ліпеня павінен быў адбыцца суд, які вынес бы пастанову арыштаваць упартага адваката. І тады Філіпчанка, які ўбачыў у будынку суда падрыхтаваны нарад міліцыі, абліў сябе бензінам і падпаліўся. Па словах відавочцаў, полымя ад трох літраў бензіну шуганула вышэй дрэваў.

Пазней, ужо ў бальніцы, Філіпчанка заявіў, што ён цалкам усведамляў свае дзеянні. Першыя дні адвакат быў пры памяці. Псіхіятры, якія гутарылі з ім пасля «вогненнай» акцыі, ніякіх адхіленняў у псіхіцы не выявілі.

На целе адваката амаль няма жывога месца, ён атрымаў апёкі трэцяй ступені (усяго іх чатыры). Пасля пяці сутак барацьбы за жыццё Філіпчанкі медыкі перавезлі яго з Наваполацка ў Віцебск. Але ў арганізм ужо пранікла інфекцыя і хутка зробіць сваю чорную справу — Філіпчанка памрэ. Гэты факт прызнаюць і самі медыкі. Абсталяванне, якое яшчэ можа дапамагчы адвакату выйграць спрэчку са смерцю, ёсць толькі ў Мінску. Аднак гэтага чалавека ў сталіцу чамусьці не пераводзяць, хаця рэальна дапамагчы яму можна толькі тут.

**Іван БАБІЧАЎ**

## Росквіт на складзе

**Міністэрства статыстыкі паведаміла вынікі «росквіту» беларускай эканомікі за першую палову 1998 года.**

З кожным месяцам прамысловасць выпускае ўсё больш прадукцыі, але пры гэтым рэнтабельнасць вытворчасці зніжаецца, а чвэрць прадпрыемстваў наогул працуюць стратна. А раз няма прыбытку, то заробатная плата мізэрная, да таго ж і яе не заўсёды выплачваюць у належныя тэрміны.

Тым часам цэны на спажывецкія тавары растуць апераджальнымі тэмпамі. У чэрвені прадукты харчавання падаражэлі больш чым на 3 працэнты, а з пачатку года кошты ўзраслі амаль на 25 працэнтаў.

Яскравай ілюстрацыяй «поспехаў» беларускай эканомікі з'яўляюцца склады. Запасы гатовай прамысловай прадукцыі за паўгода павялічыліся больш чым у 1,5 раза і дасягнулі астранамічнай сумы ў 25,6 трыльёна рублёў. Карацей кажучы, 1/10 частка прадукцыі, выробленай у першым паўгоддзі, аказалася нікому непатрэбнай. Яе не ўдаецца не толькі прадаць «за жывыя грошы», але і абмяняць на што-небудзь па бартэры.

Такім чынам, як і ў былыя часы, галоўнае: давай, давай! І даюць. А што толку?

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

## *Да ўвагі чытачоў!*

***Наступны нумар газеты НАВІНЫ выйдзе ў пятніцу, 31 ліпеня. Нагадаем, што скарочаны графік выпуску выкліканы тэхнічнымі прычынамі. Са жніўня газета зноў будзе выходзіць тры разы на тыдзень.***

***РЭДАКЦЫЯ***




*У калгасах і саўгасах пачынаецца чарговая «бітва за ўраджай».*

## *Шэсце*

***У наступны панядзелак у Мінску па ініцыятыве дэмакратычных партыяў праводзіцца шэсце з нагоды 8-й гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Шэсце пачнецца а 18 гадзіне ад кінатэатра «Кастрычнік» і завершыцца мітынгам каля Опернага тэатра.***

## *Візы*

***З 1 жніўня пасольства Польшчы ў Мінску, а таксама консульствы ў Брэсце і Гродне пачнуць выдаваць шматразовыя і аднаразовыя візы. Кошт шматразовай візы складзе 14 долараў ЗША, аднаразовай — 5 долараў. Тэрмін выдачы — 7 рабочых дзён. Экспрэс-візу можна будзе атрымаць за 3 дні, але каштаваць яна будзе даражэй на 24 долары.***

# Самых разумных і спрытных чакаюць студэнцкія білеты

**Сёлета ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі паступае амаль 60 тысяч чалавек. Але шанцы паступіць ёсць далёка не ва ўсіх: 42 дзяржаўныя ВНУ краіны гатовыя прыняць толькі 23 тысячы студэнтаў.**

**Наш карэспандэнт наведаў прыёмныя камісіі розных ВНУ Беларусі і пацікавіўся, які конкурс сёлета трэба прайсці абітурыенту, каб стаць студэнтам. Вось што атрымалася ў выніку.**

У самы прэстыжны Беларускі дзяржаўны універсітэт сёлета паступае больш за 5 тысяч чалавек, яны прэтэндуюць на 1.740 месцаў. Такім чынам, сярэдні конкурс у БДУ складае тры чалавекі на месца. Але лічбы конкурсу сур'ёзна адрозніваюцца ў залежнасці ад абранай спецыяльнасці. Напрыклад, на спецыяльнасць «сацыялогія» конкурс складае 6,6 чалавека на адно месца, а вось вывучаць экалогію на біялагічным факультэце ахвотных няшмат: на 15 месцаў — усяго 15 прэтэндэнтаў.

У Політэхнічнай акадэміі сярэдні конкурс таксама складае 3 чалавекі на месца. Сапраўднае спаборніцтва разгарнулася за спецыяльнасць «эканоміка і прававое забеспячэнне гаспадарчай дзейнасці» — 6,5 чалавека на месца, на спецыяльнасць «эксплуатацыя транспартных сродкаў» — 5,3 чалавека на месца. Але значна прасцей патрапіць, напрыклад, на факультэт транспартных камунікацыяў — конкурс складае каля 2,2 чалавека на месца.

Не пакутуе ад недахопу абітурыентаў і Эканамічны універсітэт. Амаль на ўсіх факультэтах за адно месца змагаюцца не меней за 4 чалавекі. Найбольшай папулярнасцю карыстаецца факультэт гаспадарчага права — 5,3 чалавека на месца. Як вядома, эканоміка цяпер — адзін з галоўных прыярытэтаў навучання. Спецыялісты прагназуюць, што праз некалькі гадоў Беларусь будзе задыхацца ад лішку эканамістаў. І гэта пры амаль ушчэнт разбуранай эканоміцы краіны. Дарэчы, амаль анекдатычная сітуацыя: найвышэйшы конкурс на «эканоміку» — у Агратэхнічным універсітэце. На 12 месцаў тут прэтэндуе каля 200 чалавек.

### Перакладчыкі, медыкі, настаўнікі...

Другім прыярытэтам сучаснага навучання можна лічыць замежныя мовы, перш за ўсё — англійскую. У Лінгвістычным універсітэце сярод тых, хто хоча вывучаць англійскую мову на прэстыжным перакладчыцкім факультэце, толькі кожны шосты зможа рэалізаваць сваю мару. На другім месцы па папулярнасці ў Лінгвістычным універсітэце, як ні дзіўна, — арабская мова. Колькасць жадаючых размаўляць па-арабску ў 5,6 раза перавышае магчымасці універсітэта. На педагагічных факультэтах МДЛУ найвышэйшы конкурс — на іспанскім факультэце: 4 чалавекі на месца, нават вышэй, чым на англійскім (3,8). А прасцей за ўсё патрапіць у Лінгвістычны універсітэт, пажадаўшы вывучаць французскую мову разам з беларускай. Тут конкурс складае ўсяго паўтара чалавека на месца.

Даволі проста стаць студэнтам Універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі — конкурс не перавышае 2,4 чалавека на месца. У Педагагічным універсітэце ўсё залежыць ад спецыяльнасці: калі вас цікавяць англійская мова разам з беларускай, то паступіць няпроста, бо конкурс — 7,4 чалавека на месца. І паступленне амаль гарантаванае, калі ваша мара — выкладаць дзецям у школе музыку і спевы разам з сусветнай і айчыннай культурай (на 25 месцаў — 26 прэтэндэнтаў).

У Медыцынскім інстытуце найбольш прэстыжнымі лічацца прафесіі педыятра і стаматолага — толькі кожны пяты з паступаючых на гэтыя факультэты зможа сёлета пачаць вучобу па абранай спецыяльнасці.

### Хочаш быць міліцыянтам?

У Акадэміі МУС, якую звычайна называюць «міліцэйскай акадэміяй», сярэдні конкурс складае тры чалавекі на месца. Акадэмія рыхтуе супрацоўнікаў міліцыі для аператыўнай працы ў крымінальным вышуку і іншых службах, следчых і экспертаў, участковых інспектараў і інспектараў ДАІ, а таксама персанал турмаў і калоніяў. Па словах начальніка факультэта крымінальнай міліцыі маёра Аляксандра Маліноўскага, звычайна ў Акадэмію прымаюцца толькі хлопцы, але заўсёды існуюць «асобыя ўмовы» для дзяўчат — прымаюць толькі тых, чые бацькі-супрацоўнікі міліцыі загінулі на пасту, але бяруць і спартсменак. Сёлета, напрыклад, разам з хлопцамі ў міліцэйскую акадэмію паступаюць 34 дзяўчыны.

Дарэчы, паколькі Акадэмія МУС з'яўляецца спецыялізаваным ВНУ, дык і правілы паступлення тут свае. Як паведаміў маёр Маліноўскі, тым, хто хоча сваё жыццё звязаць з міліцэйскай службай, трэба яшчэ да першага траўня падаць заяву ў рэгіянальны аддзел унутраных справаў. Потым будучага курсанта чакае дасканалая медкамісія. Мясцовы аддзел унутраных справаў да 20 чэрвеня перасылае асабістую справу абітурыента ў Акадэмію, а тая па пошце выклікае яго на экзамены. Аляксандр Маліноўскі адмовіўся паведаміць агульную колькасць абітурыентаў, але зазначыў, што сярод іх — 168 медалістаў. На думку маёра, гэта сведчыць пра папулярнасць міліцэйскай акадэміі сярод беларускіх юнакоў.

### Не пашанцавала – вучыся за грошы

Тым, каму не пашанцавала пачаць вучыцца за дзяржаўны кошт, свае паслугі прапануюць 13 недзяржаўных ВНУ, а таксама платныя аддзяленні дзяржаўных ВНУ. Звычайна прыём дакументаў на платнае навучанне пачынаецца пасля заканчэння прыёмных экзаменаў у «бясплатнікаў». Год платнага навучання каштуе ў сярэднім ад 600 да 1.500 долараў ЗША. Праўда, у некаторых дзяржаўных ВНУ існуе тэарэтычная магчымасць перавесціся на бясплатнае навучанне — але толькі для тых, хто вучыцца «на пяцёркі», і толькі пры наяўнасці свабодных месцаў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*Дзяржава абяцае кампенсацыю*

# Замест грошай – аблігацыі

З 21 ліпеня Беларусбанк пачаў прымаць заявы ад «пацярпелых укладчыкаў», якія трымалі свае грошы ў Ашчадным банку і страцілі зберажэнні ў выніку інфляцыі. Аднак не спяшайцеся радавацца: жывых грошай узамен Беларусбанк пакуль не дае.

## Для каго?

На нейкую кампенсацыю могуць разлічваць дзве катэгорыі ўкладчыкаў.

Па-першае, гэта тыя, хто яшчэ ў савецкі час **падпісаўся на каштоўныя паперы мэтавай беспрацэнтнай пазыкі 1990 г.** Тады, калі памятаеце, людзям прапаноўвалі наперад заплаціць за дарагі дэфіцытны тавар кшталту каляровага тэлевізара або аўтамабіля, а аддаць яго абяцалі праз некалькі гадоў. У выніку — ні грошай, ні рэчаў.

Па-другое, Беларусбанк прымае заявы ад тых, хто меў (або зрабіў) **грашовыя ўклады ў Ашчадным банку Рэспублікі Беларусь у перыяд з 1 студзеня 1992 года да 1 студзеня 1995 года**. Калі чалавек памёр, права на кампенсацыю маюць ягоныя спадкаемцы.

Увага: *вы нічога не атрымаеце*, калі ваш уклад ляжаў у банку **менш за 3 месяцы**. Не падлягаюць кампенсацыі таксама выйгрышныя ўклады і ўклады на аб'яднаных і кампенсацыйных рахунках.

## Аблігацыі

Вярнуць людзям страты ад інфляцыі плануецца шляхам выдачы так званых *дзяржаўных кампенсацыйных аблігацыяў* — спецыяльных каштоўных папераў. Іх выдадуць усім, хто мае права на кампенсацыю (дакладны графік атрымання гэтых дакументаў можна даведацца ў вашым аддзяленні Беларусбанка).

Яшчэ праз некаторы час дзяржава пачне выкупляць гэтыя аблігацыі ў людзей — за грошы. На ўсю працэдуру выкупу **прадугледжаны дзесяцігадовы тэрмін** — з 1998 па 2007 год. У каго дзяржава купіць аблігацыі ў першую чаргу, будзе вырашаць Савет міністраў. Пакуль што плануецца, што **ў 1998—2000 гадах выкупіць аблігацыі пенсіянераў** (гэта значыць тых, хто дасягнуў пенсійнага ўзросту на момант падпісання адпаведнага прэзідэнцкага ўказа, а ён датаваны 21 красавіка 1998 г.).

У адпаведнасці з пастановай Савета міністраў сёлета, у 1998 г., дзяржава павінна купіць аблігацыі ў грамадзянаў, якім *споўнілася 75 і больш гадоў*. Акрамя таго, у пераліку льготнікаў на сёлетні год значацца *бацькі і ўдовы ваеннаслужачых*, якія загінулі пры выкананні вайсковага абавязку, а таксама *асобы, што маюць ордэны і медалі* за самаадданую працу і бездакорную воінскую службу ў гады вайны 1941—1945 гг.

## Грошы

Наяўных грошай не дадуць.

Пагашацца аблігацыі будуць **безнаяўнымі рублямі**, якія будуць паступаць на спецыяльныя рахункі ў тым жа Беларусбанку. Уладальнік рахунка будзе мець магчымасць іх выкарыстоўваць праз *разліковы чэк* (чэкавую кніжку) альбо праз *аплату па даручэнні.*

З чэкавымі кніжкамі некаторыя ўжо змаглі пазнаёміцца — асобныя банкі прапануюць такую паслугу. Тут ёсць свае перавагі: нават калі вы згубілі кніжку — грошы не прапалі, бо да кожнага чэка патрэбны ваш подпіс (а часам і пашпарт).

Што ж да аплаты «па даручэнні», то гэта значыць наступнае: калі вам ужо налічылі кампенсацыйныя выплаты і вы хочаце купіць, напрыклад, мяшок цэменту або мэблевы гарнітур, — ідзяце ў краму, выпісваеце рахунак, прыходзіце з ім у банк, а пасля прад'яўляеце ў магазіне дакумент, які пацвердзіць пералічэнне патрэбнай сумы. Клопату, канечне, больш — але ў прынцыпе гэта тыя самыя грошы. Натуральна, за іх нічога нельга будзе купіць на базары. Затое плануецца, што крамы будуць абавязаныя прымаць плату з гэтых рахункаў нават за прадукты харчавання (праўда, такое рашэнне пакуль не прынятае).

## Перспектывы

Работнікі банкаўскай сферы далі карэспандэнту нашай газеты даволі песімістычны каментар наконт перспектываў гэтай ідэі. У кожным разе, **разлічваць на значную суму** кампенсацыі нікому не варта.

Індэксацыю будуць рабіць з разліку на 1 студзеня 1996. Калі ж узяць пад увагу інфляцыю 1996-1998 гг. (а таксама тых гадоў, якія вам давядзецца чакаць сваёй чаргі), то ў выніку ўсё роўна атрымаецца *лічба, непараўнальная* з рэальнымі стратамі ўкладчыкаў Ашчаднага банка.

Да таго ж, на думку банкіраў, ураду будзе цяжка знайсці сродкі на выплаты па гэтых аблігацыях. У якасці адной з крыніцаў папаўнення спецыяльнага фонду кампенсацыі разглядаюцца паступленні ад прыватызацыі, а яна, як вядома, цяпер практычна спынілася. Яшчэ адна названая крыніца — вяртанне незаконна атрыманых крэдытаў на будаўніцтва жылля — выглядае зусім нерэальна. Застаюцца хіба што, як запісана ў дакументах, «добраахвотныя ўзносы і ахвяраванні», таксама беспрацэнтныя крэдыты Нацыянальнага банка.

Так што ўся гэтая кампенсацыя — перш за ўсё прапагандысцкі крок, які павінен паказаць, што наша дзяржава вельмі дбае пра чалавека. «Звычайнаму ўкладчыку», якіх у Беларусі многія сотні тысячаў, цяжка разлічваць на атрыманне грошай *раней, чым у наступным стагоддзі.*

Тым не менш, як і ў сітуацыі з прыватызацыйнымі чэкамі «Маёмасць», нават ад гэтых невялікіх шанцаў атрымаць хоць нейкія грошы — **адмаўляцца не варта**.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Палац за кошт кватэр

**Новае грандыёзнае будаўніцтва пачынаецца ў Магілёве. Будуць узводзіць лядовы палац на 3.000 гледачоў.**

Будаўніцтва з'яўляецца «прэзідэнцкім аб'ектам». Сродкі выдзяляюцца сапраўды вялізныя — больш за 3 млн. долараў. Будаваць будуць ударнымі тэмпамі: увод запланаваны ўжо ў верасні 1999 года. Палац будзе мець сучасны ўнутраны дызайн, якаснае абсталяванне, добраўпарадкаваныя глядацкія трыбуны.

У прынцыпе, такі палац для «лядовых» відаў спорту патрэбны. Але ж у Магілёве ёсць людзі, якія стаяць у чарзе на жыллё яшчэ з 1966 года, і на іхнія кватэры дзяржава грошай так і не змагла знайсці.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Суд змагаецца з сухотамі

**Рашэннем Слонімскага суда чацвёра чалавек накіраваныя на прымусовае лячэнне ад сухотаў (туберкулёзу лёгкіх).**

Гэта людзі, якія выйшлі з папраўчых установаў, алкаголікі. Сёлета ўжо двое жыхароў Слонімскага раёна памерлі ад гэтай хваробы.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

# Новыя правілы для старой бутэлькі

У сталічных пунктах прыёму шклатары стала свабадней, чэргі зменшыліся. Адышлі ў мінулае і часы, калі ў адным пункце прымалі толькі «з вінтом», а ў другім — толькі «піўныя». Цяпер там можна здаць практычна ўсякую тару — як слоікі, так і бутэлькі з-пад піва, гарэлкі і кока-колы. Але — па новых правілах.

За апошнія часы збор і здача бутэлек канчаткова сталі прывілеяванай справай бомжаў і пенсіянераў. Ніхто ўжо не дзівіцца, калі бачыць нават даволі прыстойнага выгляду бабульку, якая корпаецца ў сметніку ў пошуках яшчэ адной непашкоджанай бутэлькі.



*Некаторым даводзіцца прыходзіць на пункт прыёму шклатары двойчы. Першы раз – каб даведацца пра «новыя правілы». Другі – каб прынесці чыстыя бутэлькі.*

Але ж шклатару маюць усе: у кожнай сям'і выпіваецца пэўная колькасць напояў і з'ядаецца нейкая колькасць маянэзу. І тару трэба здаваць: звычайна гэта адбываецца пару разоў на год — калі на балкон ужо нельга паставіць ніводнай пустой бутэлькі. Тады торбы набіваюцца шклатарай, і людзі цягнуцца ў прыёмны пункт. Адкуль іх — паводле новых правілаў — адпраўляюць дадому — змываць этыкеткі.

Згодна з новым парадкам, кожны, хто хоча здаць шклатару з-пад каньяку і гарэлкі, мусіць спачатку дома адмыць этыкеткі з бутэлек — інакш іх не прымуць. З этыкеткамі можна здаваць бутэлькі з-пад ліманаду альбо піва, дый то не ўсюды — сям-там прыёмшчыцы вырашылі, каб не дурыць сабе галавы, увогуле не прымаць тару з этыкеткамі.

Як нам патлумачылі ва ўпраўленні гандлю Мінскага гарвыканкама, новыя правілы прыёму шклатары ўвёў Савет міністраў. Згодна з афіцыйнай версіяй — каб змагацца супраць вытворцаў «левай» гарэлкі. Бо, маўляў, «крымінальныя элементы» раней маглі перакупіць бутэльку з-пад гарэлкі з этыкеткай, заліць туды невядома што і прадаць пад выглядам фірмовага напою. Цяпер злачынцы такую магчымасць нібыта страцілі. Цікава толькі, як сабе чыноўнікі ўяўляюць працэс адбору, сартавання, мыцця бутэлек на прыёмных пунктах тымі самымі «крымінальнымі элементамі».

Дарэчы, сярод тых, хто вымушаны са сваёй тарай цягнуцца назад, каб адмочваць і адклейваць этыкеткі, найчасцей можна пачуць словы кшталту: «Гэта ўсё падпольная гарэлачная мафія прыдумала, каб не мець сабе клопату з мыццём і адскрабаннем этыкетак». Што ж, свая логіка ў гэтым ёсць, тым больш што надрукаваць новыя этыкеткі зусім нескладана і нядорага.

Гэтаксама лагічна выглядае яшчэ адзін варыянт, таксама выказаны чыноўнікам упраўлення гандлю. Згодна з гэтай версіяй, на Савет міністраў націснуў галоўны беларускі вытворца алкагольных напояў — мінскі завод «Крышталь». «Крышталь», маўляў, імкнецца знізіць выдаткі на вытворчасць сваёй прадукцыі і таму пераклаў працу па змыванні этыкетак на спажыўца.

Тым, каму не падабаецца пару гадзінаў адмываць вельмі добра прымацаваныя этыкеткі ад «Двух буслоў» і «Крышталю-100», можам параіць перайсці на піва. Бутэлькі з-пад піва ў вас з вялікім задавальненнем прыме калі не прыёмны пункт, дык практычна любая крама. Рэч у тым, што ўсе беларускія бровары гандлююць півам толькі ўзамен на тару — каб набыць новую партыю піва, трэба прывезці на бровар тару: скрыні і пустыя бутэлькі. А на новыя бутэлькі ў вытворцаў піва звычайна не хапае сродкаў. Да таго ж лета — п'юць людзі шмат.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Старавойтаў застаецца ў турме

**Быламу старшыні акцыянернага таварыства «Рассвет» Васілю Старавойтаву не варта спадзявацца на выхад з-пад варты на падпіску аб нявыездзе.**

Гэта стала ясна пасля таго, як спецыяльная камісія зрабіла сваё заключэнне адносна стану здароўя В.Старавойтава. Прафесары медыцыны В.Шалькевіч, А.Чыж, судовы эксперт Р.Давыдаў і доктар Ю.Гуськоў прызналі, што 74-гадовы вязень «амерыканкі» сапраўды мае шэраг захворванняў, але палічылі, што яму дастаткова рэгулярнага медыцынскага агляду. *«Фактычна такое заключэнне медыкаў азначае, што пытанне аб змене меры ўтрымання нават не будзе разглядацца»*, — патлумачыў НАВІНАМ следчы А.Шык. Ён адзначыў, што эксперты так і не адказалі на прамое пытанне следства, ці можа Старавойтаў па стане здароўя знаходзіцца ў камеры.

Між тым, адвакат Вера Страмкоўская выказала здзіўленне такім рашэннем медыкаў. Яна сцвярджае, што Старавойтаў перанёс у турме інсульт, у яго абвастрыўся атэрасклероз і хранічны бранхіт, і нездарма незалежная медыцынская камісія месяц таму выказалася за тэрміновае лячэнне Старавойтава ва ўмовах стацыянара. *«Калі са Старавойтавым нешта здарыцца, віну за гэта падзеляць і тыя медыкі, якія не адважыліся выказацца за вызваленне з-пад варты старога і хворага чалавека»*, — заявіла В.Страмкоўская.

Дарэчы, паводле словаў начальніка следчага аддзела МУС Леаніда Глухоўскага, усяго ўзбуджана 56 крымінальных справаў, звязаных з дзейнасцю акцыянернага таварыства «Рассвет».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# У Лявонава забралі стрэльбу

**У доме былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава праведзены паўторны вобыск.**

Канфіскавалі паляўнічую стрэльбу, з якой Лявонаў паляваў яшчэ ў тыя часы, калі быў першым сакратаром Магілёўскага абкама кампартыі.

Усе дакументы на стрэльбу былі ў парадку, але следчых гэта не спыніла. Перавярнуўшы ўсё ў хаце, яны з'ехалі праз некалькі гадзінаў, прыхапіўшы стрэльбу ў якасці «трафея». Адвакаты звяртаюць увагу на такую акалічнасць: паралельна з вобыскам праводзілася ацэначная экспертыза дома Лявонава, што паводле закона можна рабіць толькі пасля рашэння суда аб канфіскацыі маёмасці.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Прэзідэнт з'ездзіў на мяжу

**Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус 21 ліпеня наведаў беларуска-літоўскую граніцу, дзе заявіў аб неабходнасці далейшага паляпшэння аховы мяжы і падрыхтоўкі персаналу.**

У прыватнасці, прэзідэнт Адамкус агледзеў першы дэмаркацыйны слупок на мяжы, устаноўлены ў чэрвені мінулага года. Як вядома, работы па дэмаркацыі граніцы працягласцю 650 км Літва і Беларусь падзялілі папалам. Літва ўжо дэмаркіравала 283 кіламетры і плануе завяршыць работы да канца гэтага года. Беларускія пагранічнікі адстаюць: яны ўстанавілі пакуль толькі часовыя слупы, а пастаянныя будуць у хуткім часе пастаўленыя на чатырох важнейшых участках граніцы па 30 кіламетраў кожны.

Літоўскі прэзідэнт наведаў таксама будоўлю памяшкання пагранзаставы ў Шальчынінкаі, якая абыдзецца Літве прыкладна ў 2 мільёны літаў (500 тыс. долараў). На новай заставе будуць служыць 70 чалавек, яны будуць трымаць пад кантролем 70-кіламетровы ўчастак граніцы. Будаўніцтва плануецца завяршыць да канца верасня.

*BNS—БелаПАН*



*На здымку: новая застава, адкрытая на мінулым тыдні ў Літве паблізу вёскі Паваярэ. 84 памежнікі будуць кантраляваць 50-кіламетровы ўчастак літоўска-беларускай граніцы, які прымыкае да Астравецкага і Пастаўскага раёнаў.*

НАЗІРАННІ

# Цялятніцы і дэмакратыя

Каментатар Гродзенскага абласнога тэлебачання бадзёра паведаміў, што ўсё ў нас робіцца «ў свеце загадаў прэзідэнта», і на душы ў мяне стала спакойна, надзейна, як за кітайскім мурам. Яму давяраць можна: калі што загадае, дык загадае. Альбо, напрыклад, падзякуе.

Да прыдуманага ім самім нядаўняга свята (таго самага «дня рэспублікі») былі разасланыя «падзячныя» лісты з прэзідэнцкім подпісам лепшым працаўнікам. І цялятніца яго атрымала, і доктар, і настаўніца пачатковых класаў, і токар, і нават «прыгатавальніца тварагу» з малаказавода. Пра ўсё гэта падрабязна расказвалі па тэлебачанні. А самае цікавае, што дзякавалі ім за тое, што — ні менш ні больш — сваёй працай яны спрыяюць пабудове «па-сапраўднаму дэмакратычнай дзяржавы». Такое ўражанне, што ліст быў прызначаны не столькі самой цялятніцы, а каб нагадаць усяму свету — і мне таксама, — што ў Беларусі рукой падаць да росквіту дэмакратыі, якая ўкараняецца нават на фермах.

А ўвогуле прэзідэнту трэба правесці чыстку сярод тых работнікаў, якія для яго гэтыя лісты пішуць. Маркуйце самі: заходнебеларускае мястэчка адзначае паўтысячны ўгодкі. Прыходзіць віншаванне ад прэзідэнта, а ў ім — нейкая недарэчнасць. Пра старыя падзеі пішацца наступнае: *«У гады Паўночнай вайны тут знайшлі прытулак салдаты рускай арміі. Па гэтай зямлі ступаў, занепакоены лёсам Айчыны, рускі цар Пётр І»*. Якой айчыны? Ясна, што не нашай, а сваёй, суседняй. Аб прытулку, які ў нас «знаходзілі» да зубоў узброеныя чужыя салдаты, таксама добра вядома. Ні за што не паверу, што такі, мякка кажучы, непісьменны ліст мог напісаць паважаны, сур'ёзны чалавек з дыпломам гісторыка.

І нямала людзей у нас крытычна ацэньваюць прэзідэнцкія «загады». Напрыклад, днямі ў цэнтры Гродна з'явіліся людзі з плакатамі, якія пратэставалі супраць выгнання замежных паслоў. Людзі падыходзілі і чыталі: *«Каналізацыя ў Драздах — не падстава для сваркі з усім светам», «Народная мудрасць: разумны з суседзямі не сварыцца»*. Прастаялі тыя пікетоўшчыкі больш за гадзіну, і знайшліся толькі пару адданых актывістаў, якія рашуча заступіліся за прэзідэнта і хацелі расстраляць людзей з плакатамі, але пад рукой не аказалася аўтаматаў.

Гродзенская газета «Биржа Информации» правяла тэлефоннае апытанне наконт «драздоўскай эпапеі» і абвяшчэння Лукашэнкі з ягонай вертыкаллю персонамі *non grata* ў Еўропе. Больш за палову адназначна падтрымалі рашэнне еўрапейскай супольнасці, прычым чвэрць апытаных успрынялі *«паразу прэзідэнта як сваю асабістую перамогу»*. Толькі 14% пашкадавалі Лукашэнку: *«Яны там у Еўропе вінаватыя. Не любяць нашага Лукашэнку, а мы — любім»*. Хаця адна з ягоных прыхільніц — пенсіянерка мусіла прызнаць: *«Лукашэнка таксама тут палку перагінае, надта вялікі пан стаў. Трэба нам разумнага чалавека на яго месца, ды такога няма»*.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Ракуцёўскае лета-98

У нядзелю, 26 ліпеня, у вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна адбудзецца традыцыйнае свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета-98», прысвечанае Максіму Багдановічу. Пачнецца свята ў 12:00. Як заўсёды, у ім бяруць удзел вядомыя беларускія літаратары, барды, сярод сёлетніх гасцей — таксама тэатр «Зніч».

Даехаць да Ракуцёўшчыны можна электрычкай «Мінск—Маладзечна» да станцыі Уша.

**Паліна КАЧАТКОВА**

## Каля двух крыжоў у полі

У суботу з нагоды Дня незалежнасці ў Лідскім раёне адбудзецца фэст. Месца яго правядзення стала традыцыйным: каля двух дубовых крыжоў — каталіцкага і уніяцкага, якія стаяць у полі на магіле паўстанцаў 1863 года. У памяць аб героях паўстання святары адслужаць імшу.

**С.М.**

## Друк без цэнзуры

Напрыканцы ліпеня выдавецтва «Наша Ніва» выпусціць у свет каталог беларускага непадцэнзурнага друку 1971—1990 гадоў. Сярод выданняў, што ўвайшлі ў каталог, — сем нумароў самавыдавецкага часопіса «Мілавіца», які выпускаўся на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта з 1974 па 1976 гады; нелегальна распаўсюджваныя напрыканцы 70-х — пачатку 80-х гадоў гістарычныя працы Міколы Ермаловіча «Гутаркі Сымона беларуса»; першыя непаўцэнзурныя перыядычныя выданні Беларусі — газеты «Свабода» і «Навіны Беларускага народнага фронту».

*БелаПАН*

*Лісты ў рэдакцыю*

## Заслуги солдата признали через полвека

Жизнь ветеранов Второй мировой войны легкой никак не назовешь, да и теперь они уже не бравые и сильные защитники, а просто усталые и немолодые граждане страны.

Причем зачастую бывает так, что люди тратят годы на то, чтобы доказать свое участие в минувшей войне, чтобы получить даже не выстраданные льготы, а прежде всего достаточно важное для людей советской закалки моральное удовлетворение. Так, только в 85 лет получил долгожданное подтверждение своего участия во Второй мировой войне житель деревни Перевесье Сморгонского района А.А.Устинович.

Анатолия Антоновича призвали в 1939 году с территории Западной Беларуси в Польскую армию. Совсем немного провоевав (но ведь воевал же!), 19 сентября 1939 г. он попал в плен, затем его вывезли в Германию, где он и пробыл в лагере для военнопленных в местечке Герки (район Кёнигсберга) почти шесть лет — до 30 апреля 1945 года. В советское время А.А.Устинович неоднократно пытался доказать, что он тоже воевал на той войне, но безуспешно.



И вот наконец атташе по вопросам обороны при Посольстве Республики Польша в Беларуси полковник Матей Волошик вручил Анатолию Антоновичу долгожданный документ, подтверждающий его участие во Второй мировой войне, а также медаль *«Za udział w Wojne obronnej 1939 roku»*. Полковник Волошик специально для этого приехал в Сморгонь.

Участие и внимание — это то, что ценится очень высоко. Жаль, что от своего родного государства человек так и не дождался ни одного, ни другого.

**Валентина ВЕШТОРТ**, *Сморгонь*
*Фото автора*

# Госстрах не согласен

Уважаемая редакция! В вашей газете от 23 июня 1998 года была опубликована статья М.Войтовича «Маеш хату — плаці грошы», затрагивающая некоторые положения Декрета президента Республики Беларусь «Об обязательном страховании строений, принадлежащих гражданам».

От имени страховой организации, на которую декретом Президента возложено проведение обязательного страхования принадлежащих гражданам строений, хотелось бы в данном письме высказать свои замечания по поводу некоторых моментов и проблем, которые, на наш взгляд, неверно и некорректно истолкованы автором материала «Маеш хату — плаці грошы».

В 1996 году ущерб от природных катаклизмов и техногенных катастроф составил в Беларуси 1.134 млрд. рублей. Один ураган 1997 года, пронесшийся над территорией республики 23-24 июня, нанес нашей стране огромный вред: потерпели от последствий стихии 918 населенных пунктов, в частном секторе было разрушено и повреждено более 9 тысяч строений, около 4 тысяч производственных помещений, погибло более полусотни сельскохозяйственных животных, на 1.009 км дорог были образованы завалы. Ущерб от урагана был оценен в 810 млрд. рублей.

Только Белгосстрахом по заключенным в добровольном порядке договорам страхования было выплачено 10,5 млрд. рублей, в том числе гражданам — 6,5 млрд. рублей. Государство было вынуждено покрыть потерпевшим основную часть ущерба. Ощутимая нагрузка на бюджет легла потому, что большинство разрушенных строений не было застраховано.

Руководство страны обратило внимание на низкий уровень страховой защиты имущественных интересов физических лиц, были даны соответствующие поручения ряду органов государственного управления, и, как результат, был подготовлен Декрет Президента Республики Беларусь «Об обязательном страховании строений, принадлежащих гражданам».

Следует сказать, что до 1994 года на территории Беларуси проводилось государственное обязательное страхование имущества, принадлежащего гражданам, что гарантировало всем собственникам строений возмещение ущерба, нанесенного их жилищам в результате непредвиденных событий или стихийных бедствий.

В соответствии с вышеназванным Декретом строения, подлежащие обязательному страхованию, считаются застрахованными на случай их уничтожения или повреждения в результате:

— пожара, взрыва, падения пилотируемых летательных аппаратов;

— удара молний, бури, урагана, смерча, наводнения, ливня, града, обвала, оползня, паводка, выхода подпочвенных вод, просадки грунта;

— аварии отопительной системы, водопроводных и канализационных сетей, а также случаев, когда для прекращения распространения пожара либо в связи с внезапной угрозой стихийного бедствия, указанного выше, необходимо разобрать строения и перенести их на другое место.

Страховая сумма по обязательному страхованию строений составляет 50 процентов их страховой стоимости (страховой оценки).

Страховой взнос по обязательному страхованию строений составляет 0,3 процента от страховой суммы.

Например, при размере страховой суммы по обязательному страхованию строений 100 млн. рублей, страховой взнос составит 300 тыс. рублей в год. При страховой стоимости строения, скажем, в 110 млн. рублей, страховая сумма составит 55 млн. рублей, а сумма страхового тарифа соответственно 165 тыс. рублей. Что вполне по карману практически любому жителю республики.

Кроме того, уплату страхового взноса можно производить как единовременно, так и по частям (как бы в рассрочку) с полной уплатой до 1 ноября каждого года.

Для граждан, относящихся к менее социально защищенным слоям населения, выделение денег на уплату страхового взноса даже в столь небольших суммах может оказаться проблематичным. Поэтому Декретом предусмотрено освобождение от уплаты страховых взносов отдельных категорий граждан, а именно: неработающих пенсионеров и инвалидов, получающих пенсию в размере до двух минимальных заработных плат, при условии, что с ними не проживают и не ведут совместное хозяйство трудоспособные члены семьи, а также граждан, у которых совокупный доход на члена семьи не превышает двух минимальных заработных плат в месяц. Указанные категории граждан подают в отделение Белгосстраха по месту проживания заявление об освобождении от уплаты страхового взноса и соответствующие документы.

Вот здесь было бы просто необходимым отметить следующее. Журналист М.Войтович утверждает, что «...людзі скардзяцца, што няма грошай, але дзяржаву гэта не цікавіць: прэзідэнт загадаў — трэба выконваць». Так вот, как раз-таки пенсионеры — старики, малообеспеченные граждане, как показала практика организации и проведения Белгосстрахом обязательного страхования строений, являются наиболее активными плательщиками, своевременно уплачивающими страховые взносы, потому что именно они не в состоянии будут выделить из своей скромной пенсии деньги на восстановление или новое строительство той же «прыбіральні» (которую в качестве примера приводит автор статьи).

Может возникнуть ситуация, что страховой случай наступит в период между получением страхователем уведомления о застрахованных строениях и уплатой страховых взносов. Но и в этом случае страхователь имеет право на получение страхового возмещения по обязательному страхованию строений. Поскольку строения считаются застрахованными с начала проведения в республике обязательного страхования, т.е. с 1 января 1998 года. Иначе говоря, Белгосстрах несет ответственность за все строения, подлежащие обязательному страхованию, в том числе и за те, уплата страхового взноса по которым не была еще произведена. Только в этом случае при выплате страхового возмещения будет удержана сумма начисленного, но не уплаченного собственником строения страхового взноса.

Для информации. Белгосстрахом за январь-май 1998 года уже выплачено по обязательному страхованию принадлежащих гражданам строений 13,6 млрд. рублей. Пострадавшим от стихийного бедствия, произошедшего на территории республики в июне текущего года, выплачено по страхованию строений 2,7 млрд. рублей страхового возмещения.

Приведенные цифры красноречиво свидетельствуют о пользе обязательного страхования строений, позволяющего человеку не остаться со своим несчастьем один на один.

С уважением,

**П.СУКОНКИН,**
*заместитель генерального директора Белгосстраха*

*Ад рэдакцыі:*

***Публікуючы гэты каментар Белдзяржстраха, рэдакцыя тым не менш лічыць больш справядлівым і аб'ектыўным пункт гледжання, які быў выкладзены нашым карэспандэнтам у артыкуле «Маеш хату — плаці грошы». Аналізуючы вяртанне савецкай практыкі прымусовага страхавання, журналіст зыходзіў з інтарэсаў бедных людзей, якія зусім не ў захапленні ад прэзідэнцкага дэкрэта, бо вясковаму пенсіянеру вельмі няпроста выкраіць з жабрацкай пенсіі нават 165 тысяч рублёў на страхавы ўзнос. Праўда, Белдзяржстрах спрабуе абвергнуць гэта, заяўляючы, што менавіта пенсіянеры «з'яўляюцца найбольш актыўнымі плацельшчыкамі». Яно так і ёсць, але прычына «актыўнасці» зусім іншая. Страхавыя ўзносы спаганяюць фактычна прымусова: пакуль не заплаціш — ніякай патрэбнай табе паперкі ні ў сельсавеце, ні ў іншай канторы табе не выдадуць.***

# Рабы — не мы

**Юрый ХАДЫКА,**
**намеснік старшыні БНФ, прафесар**

Са свайго голага і даволі галоднага пасляваеннага дзяцінства я вынес адно моцнае і незвычайнае ўражанне. Маёй маці цудам удалося пранесці праз эвакуацыю і акупацыю адзін том дарэвалюцыйнага выдання твораў У.Шэкспіра. Гэта быў фаліянт у цвёрдай вокладцы з даволі фрывольнымі ілюстрацыямі, абароненымі ад выцвітання тонкімі лісткамі папяроснай паперы. У тыя жорсткія часы кніг наогул было мала. І тыя, якія я мог атрымаць у гарадской дзіцячай бібліятэцы, не ішлі ні ў якое параўнанне з антыкварным Шэкспірам. Праўда, мне, 10-гадоваму хлопчыку, браць фаліянт было забаронена. Але я рабіў гэта, калі бацькоў не было дома.

Чамусьці ў гэтым томе пераважалі п'есы з жыцця Старажытнага Рыма. З ілюстрацыяў я даведаўся, як выглядаў Рым, яго сенатары, патрыцыі, легіянеры дзве тысячы гадоў таму. Я спрабаваў чытаць і тэксты. Але разумеў вельмі мала. Была там і п'еса «Бура». У ёй расказвалася пра тое, як на востраў, заселены дзікунамі, бура закінула карабель з рымскімі патрыцыямі. І як яны спрабавалі цывілізаваць тубыльцаў. І як, у рэшце рэшт, яны пакінулі востраў, адплыўшы назад у Рым. Тэкст п'есы канчаўся ілюстрацыяй, дзе на беразе мора былі паказаныя дзікуны, якія скакалі па пяску, узняўшы ўгору рукі, з вуснаў іх вырываўся вокліч «Свабода! У-у-у, свабода!»

Гэтае «у-у-у» і ўражвала мяне найболей. Яно надавала простым словам надзвычайную эмацыянальную афарбоўку. Нейкім падсвядомым чынам яно апраўдвала ў маіх вачах і раны бацькі, які вярнуўся з вайны з трыма лычкамі за раненні. І смерці майго дзядзькі і трох стрыечных братоў, якія загінулі за свабоду. Загінулі ў змаганні з ворагам, што хацеў гэтую свабоду забраць.

Зразумела, я не мог усвядоміць усю глыбіню, увесь сэнс таго воклічу. Толькі з цягам часу станавілася ўсё больш і больш зразумелым, якой каштоўнасцю з'яўляецца свабода. Гэта дар Божы — і чалавеку, і народу. Каштоўнасцю, якая мае найвялікшую цану. Бо дае права жыць па сваіх законах. У сваім натуральным духоўным асяродку. Шэкспір лічыў, што гэта разумеюць нават дзікуны.

Альтэрнатывай свабоды ёсць рабства. Звычайна ў рабства людзі трапляюць прымусам. І змагаюцца, пакуль ёсць магчымасць. Але, калі рабскі стан зацягваецца надоўга, чалавечая псіхіка дэфармуецца. Раб пачынае супрацўляцца свабодзе. Так было з неграмі ў Амерыцы. І з прыгоннымі ў Расіі. Больш таго, чалавек часам выбірае рабства добраахвотна, парушаючы другое прыказанне Божае — не ствары сабе куміра. Яскравым прыкладам добраахвотнага рабства ёсць алкагалізм. Цяжка і брыдка глядзець на чалавека, гатовага за пляшку гарэлкі прадаць родную маці. Гэтаксама брыдка, як на раба, які адмаўляецца стаць свабодным, бо баіцца згубіць кавалак кілбасы, якую яму даваў гаспадар, каб не памёр з голаду.

Абодва гэтыя станы рабства ёсць ненармальныя. Іх можна зразумець, але нельга з імі мірыцца.

27 ліпеня 1990 г. камуністычная большасць ВС 12-га скліканя па-рабску прагаласавала за Дэкларацыю незалежнасці Беларусі. Так ёй было загадана з Масквы. Але незалежнасць не была патрэбная гэтай большасці. Яна яе напалохала, бо не ведалі, што рабіць з гэтай свабодай. Таму пачалі з ёю змагацца, каб вярнуцца назад, у рабскі стан. «Улада валялася ў гразі», — сказаў толькі што абраны прэзідэнт А.Лукашэнка. Так былыя прыслугачы гаспадароў вырашылі самі стаць гаспадарамі.

Павага да чалавечай асобы, яе годнасці — не ўласцівая для прыслугі рабаўладальніка. Апанаваўшы ўладу, былыя прыслугачы больш за ўсё баяліся, што рабы вылечацца. А вылечыць іх магло толькі свабоднае праўдзівае слова. Не эканамічныя поспехі: іх немагчыма дасягнуць, не стаўшы свабоднымі. Толькі слова. Менавіта таму з першых дзён сваёй улады А.Лукашэнка разгарнуў шалёную барацьбу з праўдай. Прыўлашчыў, падпарадкаваў сабе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Потым парваў вонкавыя знакі нашай свабоды — бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Потым збіваў і кідаў за краты тых, хто выходзіў на вуліцы, каб разам адчуць сябе свабоднымі. Садзіў у турмы журналістаў. Нарэшце адмяніў нават свята 27 ліпеня. Каб сцерці з памяці людзей сам факт адраджэння суверэнітэту тысячагадовай Беларусі.

Праўда стала полем змагання з дыктатураю і рабствам. Прэзідэнт і ягоныя шматлікія памагатыя апусцілі на краіну густую хмару хлусні. У тых, хто не хоча жыць у гэтай атрутнай атмасферы, не так шмат сродкаў, каб яе развеяць. Але яны ёсць. Гэта — масавыя акцыі пратэсту. У гадавым коле гэтых акцыяў не апошняе месца займае 27 ліпеня.

Я заклікаю ўсіх, хто не адчувае сябе рабом, і сёлета выйсці вечарам 27 ліпеня на праспект Ф.Скарыны і далучыцца да шэсця ў падтрымку нашай дзяржаўнай незалежнасці і асабістай свабоды. Яно пачнецца ў 18 гадзін ад кінатэатра «Кастрычнік». У Мінску больш за палову насельніцтва не прымаюць палітыку прэзідэнта А.Лукашэнкі. Мы здольныя зрабіць акцыю і сьвяточнай, і магутнай.

Адкладзем жа справы, каб паказаць, што рабы — не мы!

ВЗГЛЯД С ЗАПАДА

# Загадочная

## Публикация из газеты Washington Post

Сначала президент Лукашенко предложил иностранным послам покинуть свои резиденции, приказав отключить воду и электричество, а также повесить замки на ворота. Затем по его указанию начали выносить из резиденций мебель дипломатов. Послы покинули Беларусь. Белорусские дипломаты вернулись к себе на родину. Все это напомнило ситуацию 1952 года, когда советский диктатор Иосиф Сталин пытался выселить американского и британского послов из своих резиденций.

Импульсивный Александр Лукашенко, самый «неординарный» из всех президентов бывших советских республик, большой поклонник деспотичного и авторитарного правления, чтобы стать единоличным владельцем дипломатического городка в Минске, решил «примерить» на себя доспехи Дон Кихота.

Зачем же он все это делает? Одни полагают, что главная его цель — завладеть комплексом элитных строений и превратить их в свою собственную резиденцию. Другие — что он таким образом решил отомстить Западу в диктаторских замашках. Третьи же считают, что Лукашенко готовит условия для вхождения Беларуси в будущем в состав соседней России и возрождения союза советского типа. Однако эти догадки остаются лишь догадками.

Европейский Союз уже прореагировал на ретивые действия белорусского диктатора: самому Лукашенко и 130-ти его министрам и чиновникам теперь запрещено въезжать в страны, с дипломатами которых президент Беларуси обошелся столь «гостеприимно».

К совместному Заявлению ЕС присоединились также Болгария, Кипр, Чехия, Эстония, Венгрия, Румыния, Словакия, Словения, Исландия и Норвегия. Соседняя с Беларусью Польша, признав Заявление Европейского Союза как «полностью оправданное», тем не менее, заявила о своей готовности сотрудничать с режимом Лукашенко.

Вольфганг Шюссель, министр иностранных дел Австрии, возглавляющий ныне Европейский Союз, сказал, что он был «полностью обескуражен» действиями белорусских влас-



ДАГЕРРОТИП

# Без «патера» нам нельзя

**Семен БУКЧИН**

Еще совсем недавно какой штамп у нас царил в определении национальной сути белоруса? Ну, конечно, «памяркоўны»! Какой же еще! Податливый, мягкий, уступчивый, терпимый и даже благожелательный — вот сколько значений может быть в одном нашем слове. Особенно приятны, безусловно, первые — податливый, уступчивый... С таким народом все можно сделать!

Впрочем, в последнее время «памяркоўнасць» стала уступать место более солидному термину — «патернализм». Это от того самого «патера», который «отец»... Одним словом, мы народ «патерналистский». Не в том смысле, что «отцовский», а, напротив, сам жаждущий припасть к стопам какого-нибудь доброго «патера-отца». Одна дамочка, любящая посюсюкать «на гражданские темы» в государственной газете, так и пишет: «В них (в наших «простых людях». — **С.Б.**) очень сильна тяга к патернализму — «взял ты нас на свои плечи»...

Кто взял, пояснять, полагаю, не надо. Есть у нас один человек. Расчувствовавшаяся дамочка даже стихи своей мамы приводит:

*Не мы тебя выбирали*
*Выбрал нам тебя и Бог*
*Сам ты эту «развалюху»*
*С места сдвинуть бы не смог.*

«Развалюха» — это, конечно, наша Беларусь. И вот теперь она, как выясняется, сдвинута. С Божьей помощью. Только в какую сторону? «Не думаю, что найдется циник, который примет эти искренние строчки за дифирамбы», — патетически заламывает руки дамочка.

Упаси Боже! Это ведь действительно исторгнуто из самых глубин народной души! А как же иначе? И то, что это так, уже на другом уровне, «научно-аналитическом», подтверждает в той же газете другая дама, кандидат не каких-нибудь, а «политических наук». Здесь уже не стишками самодельными — солидной терминологией пахнет. Прошу прощения у читателя за эту кошмарную цитату: *«Белорусское же государство избрало самый безболезненный для общества и самый противоречивый для себя путь — осуществление демократических реформ при сохранении своих патерналистских функций».*

Человеку неосведомленному, конечно же, хочется воскликнуть: ну если «самый безболезненный», то почему «самый противоречивый»? Ежели без боли, то нелзя ли и без этих самых противоречий?

Впрочем, что до меня, то пусть будут и «противоречия», этот неизбывный элемент марксистской диалектики. Пусть будут «патерналистские функции» государства. Но пусть укажет мне кандидат политических наук то, что она называет «демократическими реформами». Где они, дорогуша? Ну хотя бы самые маленькие? Совсем крохотные? О каких реформах речь, ежели сторожа районной бани нельзя назначить без согласования с «патером»? "Патер", перефразируя русского поэта, «простер над Беларусью совиные крыла».

Вот дамочка со стихами своей мамы, она честнее ученой коллеги. Не оперирует отвлеченными понятиями, а конкретно загибает пальцы. «Патер» дал сельчанам «в свое пользование» целый гектар земли, и теперь можно сеять «спасительницу-бульбу для себя не на глухих лесных делянках»! Это ли не счастье? А еще «патер» издал указ «о строительстве кооперативного жилья». А ежели бы не издал? Мы бы в землянках, конечно, ютились!

И, в конце концов, не сидит же белорус, как российский шахтер, на Горбатом мосту! Поэтому нужно кланяться и благодарить «патера», кланяться и благодарить... Без крова не оставил, картохи позволил посеять... Благодетель!

А как печать облагодетельствовал? «Ученая дама» привела потрясающий пример. «Я прежде всего хочу, чтобы вы жили», — заявил «патер» журналистам на недавнем форуме в Минске. Подумать только! Он нам жизнь дарует! А ведь мог бы и не даровать? Сила-то у него вон какая! Поэтому быстренько припасть к ручке и целовать без конца в верноподданническом восторге! Потому что мы народ патерналистский. И государство у нас патерналистское. И журналистика у нас имеется, соответственно, «патерная». Это в том, видимо, смысле, что вся, с потрохами, со стишками самодельными, публицистическим сюсюканьем и псевдоучеными наворотами, «патеру» принадлежащая. «Патер» — читатель строгий.

